*Жыві і помні*

# Гомельскі напрамак

Анатоль ГАТОЎЧЫЦ

**50 гадоў назад, 26 лістапада 1943 года, Савінфармбюро паведаміла: "Войскі Беларускага фронту ў выніку паспяховага наступлення і смелага абходнага манеўра сёння, 26 лістапада, авалодалі буйным абласным цэнтрам Беларускай ССР — горадам Гомель".**

Гомельскі напрамак з'явіўся ў аператыўных зводках у дваццатых чыслах верасня. Пад магутным націскам Чырвонай Арміі фашысцкія войскі адкочваліся да так званага ўсходняга вала. На гэтым рубяжы, які цягнуўся па Дняпры, Сожы і далей на поўнач, нямецкае камандаванне мелася стабілізаваць фронт і перайсці да пазіцыйнай вайны. Гітлер нават заявіў: "На Дняпры рускія спынены і германская армія будзе трымаць іх, пакуль не абяскровіць. Будзе біцца, калі трэба, сем гадоў..."

Не атрымалася. За кароткі час савецкія войскі па шырокім фронце захапілі на Дняпры больш як дваццаць плацдармаў, адкуль, нібы разводдзе, пачалося наступленне. "Людзей не трэба было падганяць, — пісаў аб тых днях былы камандуючы Цэнтральным фронтам (з 20 кастрычніка — Беларускі), славуты палкаводзец К.Ракасоўскі ў кнізе "Салдацкі абавязак", — усе біліся самааддана, імкнучыся хутчэй вымесці фашысцкіх акупантаў..."

## 1. На зямлі

Цяжкія бai ў лістападзе разгарэліся на поўнач ад Гомеля, дзе ўдары наносілі 11-я і 63-я арміі. Тут, на заходнім беразе Сожа, праціўнік стварыў ланцуг умацаваных пунктаў.

Байцы 41-й дывізіі зачапіліся на плацдарме ля вёскі Хальч, але ледзь утрымлівалі яго. Немцы навальваліся разпораз. Прарыў іх абароны ў напрамку Гомеля камандаванне 11-й арміі даручыла 96-й дывізіі, якая атрымала потым найменне "Гомельская". У свой час, даведаўшыся, што ў Казані жыве былы камандзір дывізіі генерал-маёр у адстаўцы Ф.Булатаў, я напісаў яму пісьмо. Васьмідзесяцідвухгадовы генерал не змог адказаць сам. Па яго просьбе гэта зрабіў у той час адказны сакратар савета ветэранаў дывізіі І.Злыдзень. Так мне адкрылася адна са старонак крывавай бітвы за Гомель.

...Плацдарм ля вёскі Хальч — "пятачок" зямлі памерам з квадратны кіламетр ці крыху болей. Наперадзе — тры абарончыя паласы праціўніка з гнёздамі дзотаў. Вораг імкнецца спіхнуць нашых байцоў з плацдарма: пакуль Хальч у яго руках, дарога на Гомель зачынена.

Раніцай 12 лістапада непрыяцель абрушыў двухгадзінны артабстрэл на плацдарм. А потым замаўчаў. І тут, разрываючы цішыню, ударылі на пярэднім краі флангаў два палкі "кацюш". Услед за агнявым валам падняліся ў атаку падраздзяленні 331-га і 350-га палкоў, якія ноччу перабраліся цераз Сож. Камбат капітан Жураўлёў з палка Мамонава разам са сваімі салдатамі першым уварваўся ў траншэю праціўніка. Адразу трое фрыцаў накінуліся на яго. Аднаго капітан скасіў аўтаматнай чаргой, другога аглушыў прыкладам, а трэцяга, які скочыў на яго зверху, перакінуў цераз сябе і, выхапіўшы ў фашыста з-за пояса штык-нож, даканаў...

Супраціўленне было моцным. Немцы контратакавалі. Да прыцемку часці дывізіі змаглі дабрацца толькі да ўскрайку Хальча.

Нялёгка было і на наступны дзень. Артылерыяй і танкамі вораг абрушыўся на пазіцыі 350-га палка палкоўніка Абрамава і дзе-нідзе пацясніў яго байцоў.

Тры дні доўжыўся крывавы паядынак за Хальч. Адчуўшы пералом, камдзіў Булатаў у ноч на 16-е лістапада ўвёў у бой рэзерв — 338-ы стралковы полк. Пры падтрымцы артылерыйска-мінамётных батарэй дывізія зламала абарону ворага.

## 2. На вадзе

У маім журналісцкім архіве ёсць і пісьмо былога камандзіра 85-га Гомельскага асобнага пантонна-маставога батальёна І.Масіка з малдаўскага горада Бендэры:

"Лістапад сорак трэцяга быў халодны. Па Сожы плыў шарош. Дзесьці ў дваццатых чыслах я атрымаў загад начальніка інжынерных войск фронту А.Прашлякова адправіць адну роту ў абход Гомеля пад Ветку ў аператыўнае падпарадкаванне 11-й арміі генерала Фядзюнінскага. Вылучыў роту старшага лейтэнанта Ваўкалупава. На другія суткі ноччу пасыльны дабраўся з сумнай навіною: ротны загінуў. Байцам Ваўкалупава было загадана тэрмінова навесці паром для пераправы танкаў паміж Старым Сялом і Хальчам. З наступленнем цемры байцы прывезлі паромны парк да Сожа і разгрузілі метраў за сто ад ракі. Бліжэй нельга. Нават на нязначны шум немцы адкрывалі шалёны агонь.

Позна ўвечары перанеслі парк на руках да самага рэчышча і пачалі збіраць. Моўчкі працавалі пантанёры, стоячы па калена ў ледзяной вадзе. Месца забітых займалі іншыя. І вось, вуркочучы, першы танк узлез на паром. Немцы ўзмацнілі агонь. На пароме за танкам — баявая група...

Як толькі паром утыкнуўся ў варожы бераг, з акопаў ударылі аўтаматныя чэргі. Дружна кінулі гранаты — і на бераг.

Без прыстані паром не змог разгрузіць танк і, забраўшы раненых, адышоў да свайго берага.

Увесь наступны дзень байцы пад камандаваннем І.Педчанкі абаранялі плацдарм, адбілі шэсць атак ворага. Пантанёраў добра падтрымлівалі нашы артылерысты і мінамётчыкі.

Толькі калі звечарэла узвод Педчанкі замяніла стралковая рота. Мала хто з пантанёраў уцалеў. Сам Педчанка быў паранены некалькі разоў і ўжо ў шпіталі памёр ад ран.

Праз ноч мы зрабілі дзве прыстані, замянілі разбіты паром і пераправілі тры танкі. Потым навялі пантонны мост. Па ім на правы бераг перабраўся 231-ы танкавы полк і, зладзіўшы баявы парадак, павёў наступ на Гомель".

## 3. У небе

Нямала гераічных старонак у баях за Гомель упісана лётчыкамі 16-й паветранай арміі.

3 лістапада В.Башкіраў з 519-га знішчальнага авіяпалка збіў у адным баі чатыры варожыя самалёты.

"А было гэта так, — паведамляе Віктар Андрэевіч з украінскага горада Чарнігава. — Я атрымаў загад перагнаць самалёт ЯК-75 з рамонту на новы аэрадром. Разам з механікам Аляксандрам Смірновым апрабавалі матор. Усё добра, можна ляцець. Але ж як дабярэцца да новага месца механік? Давай, кажу яму, у багажны адсек. Ёсць такі ў ЯКа за кабінаю пілота. Узляцелі. Вышыня дзве тысячы метраў. Бачу, крыху вышэй ідзе "Юнкерс-88". Вырашыў атакаваць. Знікае адзін раз, другі. Ляціць, ухіляецца ад удару. Толькі з пятага заходу "Юнкерс" задыміўся. Калі ж я выходзіў з атакі, на мяне зваліліся адразу чатыры "Фоке-Вульфы-190". Уцячы? Мусіць, не выйдзе. І я прыняў бой. Збіў дваіх. Адзін з іх, ахоплены полымем, падаючы, сутыкнуўся са сваім вядзеным. Такім чынам я аказаўся "віноўнікам" пагібелі ўжо трох "Фокераў". Апошні з чацвёркі ўсё ж адкрыў па мне агонь. Я быў паранены ў нагу, а тут, гляджу, паліва заканчваецца. Здолеў адарвацца. Зранены самалёт пасадзіў на свой аэрадром. Адшпіліў парашут — і да багажніка: ці жывы Саша? Гляджу, мацаю і нарадавацца не магу: механік мой нават без драпінкі. За гэты бой я атрымаў Зорку Героя.

❑

Немагчыма расказаць пра ўсе ратныя подзвігі салдат і афіцэраў у баях за Гомель. Толькі вышэйшай узнагароды — звання Героя Савецкага Саюза — былі ўдастоены звыш пяцісот чалавек. Дваццаць чатыры злучэнні і часці пайшлі ад Гомеля далей на захад з ганароваю назвай "Гомельскія". Удзячны горад з нагоды 50-годдзя запрасіў на ўрачыстасці шэраг сваіх вызваліцеляў.

---

**"Народная газета" рэдка прыбягае да перадрукоўкі матэрыялаў з іншых выданняў. Але сёння робім гэта па просьбе чытачоў. Вось, напрыклад, пісьмо настаўніка Іўеўскай дапаможнай школы-інтэрната: "Было б вельмі добра, каб з дапамогай "Народнай газеты" артыкул Е. Андрэевай быў даведзены да ведама народных дэпутатаў..." Лічым, што развагі Ефрасінні Андрэевай сапраўды вартыя шырокай чытацкай аўдыторыі "Народнай газеты".**

*Погляд на двухмоўе вачыма рускага чалавека*

# Вярнуць на законны пасад

Ефрасіння АНДРЭЕВА,
прафесар, доктар педагагічных навук

**Шмат гадоў сродкі масавай інфармацыі Беларусі безупынна вядуць гаворку пра дзяржаўнае (афіцыйнае) двухмоўе. Калі існаваў СССР, а БССР з'яўлялася яго састаўной часткай, калі не было ў прыродзе Закона аб мовах у Беларускай ССР, тады мне здавалася, што быў нейкі рэзон гаварыць пра падобную моўную з'яву ў нашым краі, дый то ў такім разрэзе: на сваёй этнічнай тэрыторыі беларуская мова з'яўляецца адзінай дзяржаўнай, а руская выконвае функцыю ўзаемаадносін Беларусі з іншымі саюзнымі дзяржавамі і па гэтай прычыне павінна вывучацца ва ўсіх агульнаадукацыйных школах, незалежна ад таго, якая мова ў іх з'яўляецца рабочай. Калі ж СССР распаўся, а Беларусь стала незалежнай, суверэннай краінай, настойваць на афіцыйным беларуска-рускім двухмоўі — гэта ўжо нонсенс. Абыходзяцца ж Расія, Польшча, Літва, Германія, Францыя і іншыя дзяржавы на сваёй гістарычнай тэрыторыі адной афіцыйнай мовай, і ніхто не называе іх адсталымі ў культурных адносінах, а ўлады — рэакцыйнымі, нацыяналістычнымі. Няўжо недастаткова багатага моўнага вопыту гэтых краін, каб Беларусі праводзіць у гэтай сферы зусім процілеглую палітыку?**

Цалкам пагаджаюся з тымі, хто лічыць, што наданне на Беларусі статуса дзяржаўнай рускай мове будзе мець самыя **трагічныя вынікі для беларускай — яе поўнае знікненне з ужытку.** Не ёй, такой аслабленай за стагоддзі паланізацыі і русіфікацыі, сапернічаць за выжыванне з такой багатай на лексіку, добра спрактыкаванай у абслугоўванні розных сфер жыцця рускай мовай. А вы што, паважаныя народныя дэпутаты, палітыкі розных рангаў, думаеце, апошняя добра сябе адчувала б, каб на яе этнічнай тэрыторыі ў дзяржаўным жыцці запанавала якая-небудзь развітая еўрапейская мова? Вунь які пярэпалах у першай палове XIX ст. напусціла на афіцыйныя ўлады Расіі, інтэлігенцыю французская мова, калі яна пачала пранікаць толькі яшчэ ў багатыя сем'і!

Знешне можа падацца, што на Беларусі за дзяржаўнае двухмоўе выступаюць таму, што яе людзей Бог надзяліў нібыта надзвычай багатымі філалагічнымі здольнасцямі і для іх авалоданне дзвюма мовамі — гэта зусім просты арэшак. А вось, маўляў, рускія, палякі, літоўцы, немцы, французы і іншыя народы — гэта недаразвітыя ў філалагічных адносінах этнасы, таму яны і не ўводзяць афіцыйнага двухмоўя. Аднак калі больш уважліва ўнікнеш у моўную сітуацыю, дык убачыш, што не толькі ў абсалютнай большасці карэннага насельніцтва, але і ва ўсіх астатніх жыхароў Рэспублікі Беларусь нестае ведаў і вопыту, каб адначасова яны маглі карыстацца і беларускай, і рускай мовамі. Па гэтай вось прычыне многія і выступаюць за афіцыйнае двухмоўе, бо бачаць у ім рэальную магчымасць лагодна прыстасавацца да жыцця, не абцяжарваючы сябе абавязкамі вывучыць дзяржаўную беларускую мову.

Лагодна таму, што можна будзе спакойна працаваць, ведаючы толькі адну рускую мову.

Многія вядомыя вучоныя-педагогі свету ва ўсе часы, пачынаючы са старажытнай Грэцыі і Рыма і да нашых дзён, прызнавалі выключна важную ролю ў развіцці інтэлекту і духоўнасці маладога пакалення валоданне ім некалькімі мовамі. Дык давайце не будзем выключаць з гэтых моў і беларускую, на якой напісана багата сапраўдных шэдэўраў мастацкай літаратуры.

А не ведаюць жа беларускай мовы людзі не па сваёй віне. Проста яны былі вымушаны жыць у такіх абставінах, што вострая неабходнасць існавала толькі ў веданні адной рускай мовы як мовы фактычна дзяржаўнай. Таму сённяшнія пакаленні беларусаў намнога лепш валодаюць ёю, чым роднай. А ім жа трэба вяртацца да сваіх нацыянальных вытокаў, перастаць быць аморфным у этнічным плане насельніцтвам. Бо што ж ты за беларус, калі не ведаеш, не карыстаешся матчынай мовай?

Як і многіх, мяне па-сапраўднаму радуе, што, нягледзячы на велізарныя цяжкасці, звязаныя з заняпадам у эканоміцы і даволі пашыраным зачарсцвелым беларускім нацыянальным нігілізмам, адраджэнскія працэсы ўсё ж набываюць моц. Яны маглі быць яшчэ больш значнымі, калі б добра адчувалася ў гэтым роля дзяржаўных структур. А іх падтрымка цяпер ой як важная. Тут нават дзе-небудзь у спецыфічна беларускім не грэх і перасаліць трохі, каб раскатурхаць ад сну, натхніць людзей на высакародную нацыянальную справу, зарадзіць у іх упэўненасць у рэальнасці выжывання і адраджэння.

Калі супраць статуса адзінай дзяржаўнай беларускай мовы выступаюць самі беларусы, гэтага нельга нічым іншым растлумачыць, як паўнейшай асіміляцыяй народа. Бо добраахвотнага вырачэння матчынай мовы не ведае і, думаю, не будзе ведаць сусветная цывілізацыя. І ўсё ж да такіх безнацыянальных беларусаў нельга ўжыць аніякіх прымусовых санкцый: гэта іх духоўны здабытак, і з ім яны вольныя пастулаць так, як ім захочацца. А вось нам, небеларусам, і асабліва рускім, мова якіх у гэтым краі ўжо стагоддзі знаходзіцца фактычна ў рангу дзяржаўнай, ніяк нельга ваяваць за афіцыйнае двухмоўе, ведаючы, што гэта прывядзе да поўнага заняпаду мовы самага дарагога і блізкага нам славянскага народа. Хацелася б, каб гэта вельмі добра ўсвядомілі актывісты Славянскага сабора "Белая Русь", пазіцыя якога адносна прыняцця закона аб роўным статусе рускай і беларускай моў зусім не адпавядае нацыянальным інтарэсам беларускага народа, нягледзячы на такую назву дадзенага аб'яднання людзей. Мы, рускія, генетычна пабудаваны духоўна такім чынам, што да іншых народаў, асабліва славянскіх, ішлі і ідзём з мірам і добрым сэрцам, мы пазбаўлены якой-небудзь агрэсіі і жадання навязваць ім сваю культуру і мову. Калі ж такое рабілася, дык толькі тымі рускімі, якія адрываліся ад свайго народа, пазбаўляліся ўласцівых яму г у м а н і с т ы ч н ы х, інтэрнацыяналістычных рыс. Не хацелася б, каб пазбаўленыя такіх рыс рабіліся рускімі на беларускай зямлі, асабліва ў дачыненні да яе нацыянальнай мовы. Сумеснымі намаганнямі не дадзім загінуць старажытнай, багатай культуры і мове блізкага нам беларускага народа!

Усе законы, у тым ліку і Закон аб мовах, мы павінны выконваць бездакорна. Сваімі паважлівымі адносінамі да найкаштоўнейшага скарбу беларускай нацыі — яе мовы — нам трэба, нават свядома абмяжоўваючы сябе дзесьці ў рускім, дапамагчы ёй залячыць тыя раны, што прычынены русіфікатарскімі дзеяннямі крывавага ката паўстання 1863—1866 гг., начальніка Паўночна-Заходняга краю М.Мураўёва і яго вернага паплечніка, куратара Віленскай навучальнай акругі І.Карнілава, якія навадніў яе ўстановы тысячамі настаўнікаў, прасякнутых духам рускага вялікадзяржаўнага шавінізму. Давайце смела глянем праўдзе ў вочы і на ўвесь голас скажам, што мы, рускія, у пэўнай ступені нясём адказнасць і за ўсё тое, што рабілася па ўказцы Масквы на Беларусі ўжо ў савецкі перыяд з мэтай яе дэнацыяналізацыі. Сыноў нашай нацыі нямала працавала тут на высокіх пасадах у партыйных органах, ДПУ, АДПУ, НКУС. На працягу амаль 40 гадоў пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі толькі адзін раз самая высокая ў рэспубліцы пасада сакратара ЦК КП(б)Б (ЦК КПБ) знаходзілася ў руках беларуса, прычым меней чым адзін год. З 1938 года рэспубліку нават пазбавілі права мець беларуса на пасадзе наркама асветы, бо лічылі гэты ўчастак вельмі адказным у палітычных адносінах.

Нельга нам, небеларусам, быць пасіўнымі, а тым больш выступаць супраць нацыянальна-культурнага Адраджэння беларусаў, галоўным падмуркам якога з'яўляецца іх родная мова. Паколькі яе выратоўвае толькі статус адзінай дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь, гэта і трэба непахісна праводзіць у жыццё, незалежна ад таго, як з гэтым стасуюцца інтарэсы тых ці іншых слаёў грамадства. На першае месца трэба ставіць тое, што ў інтарэсах усёй беларускай нацыі, а не нейкай часткі насельніцтва, якая нядобразычліва ставіцца да беларускай культуры і мовы.

У мяне часта ўзнікае думка, а ці не стварыць нам, рускім, нейкую асацыяцыю, таварыства і г.д. у падтрымку сучаснага беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння? Калі сярод адной часткі рускіх ёсць прыхільнікі афіцыйнага двухмоўя, што з'яўляецца антыподам беларускаму Адраджэнню, дык чаму ж сярод другой іх часткі не арганізаваць і рух у яго падтрымку? Асабліва настойліва такія думкі ўзнікаюць тады, калі я чую па радыё прамовы дэпутата А.Лукашэнкі і некаторых іншых, дзе яны абвінавачваюць, прычым з вялікай непавагай у тоне голасу, усіх тых, хто стаіць за дзяржаўную беларускую мову. У такі час яшчэ больш пераконваюся, што, на здаровы сэнс і па логіцы рэчаў, нацыянальнае Адраджэнне беларусаў — гэта зусім не чужая нам справа. Жывём жа на іх зямлі. Чаму ж тады не дапамагчы ім у бядзе? Тым больш што вопыт у гэтай высакароднай, інтэрнацыяналістычнай справе ў нас ёсць.

І хаця ж не пужайцеся брацца за вывучэнне беларускай мовы тыя, каму сёння ўжо недалёка да пенсіі ці нават калі перасякнуты гэты маларадасны рубеж. Я пачала грунтоўна вывучаць беларускую мову якраз з таго рубяжа. Ужываю слова "грунтоўна" таму, што паставіла мэту навучыцца пісаць на ёй навуковыя працы, чытаць студэнтам лекцыі. Штосьці атрымалася: напісана на беларускай мове і выдадзена ў 1992 годзе першая частка падручніка (усяго будзе тры часткі) "Гісторыя замежнай педагогікі са старажытных часоў да 1992 года". Непрыкметна праляцеў чарговы адпачынак... І на гэты раз больш за палову яго адведзена мною для паглыблення ведаў па беларускай мове, на шляху якой так шмат розных перашкод. Падрыхтавала да друку другую частку вучэбнага дапаможніка па гісторыі педагогікі "Гісторыя педагогікі Беларусі са старажытных часоў да 1917 года". Так што ў новым навучальным годзе буду адчуваць сябе яшчэ больш раскаванай пры выкладанні педагагічных дысцыплін на беларускай мове.

Магчыма, мой уласны прыклад можа падацца не надта пераканаўчым. Таму, каб зняць страх у паважаных прафесараў і выкладчыкаў сталага веку ад пераходу на беларускую мову, нагадаю, што нямецкі вучоны Раберт Абіхт ажно ў 66-гадовым узросце прыступіў да вывучэння яе і ў пачатку бягучага стагоддзя выкладаў у Брэслаўскім універсітэце. У нас жа для гэтага куды лепшыя ўмовы: якніяк усё ж існуе ў рэспубліцы хоць сімвалічнае беларускамоўнае асяроддзе. Галоўнае — жаданне, настойлівасць, і беларуская мова стане духоўным здабыткам кожнага з нас. А інакш і быць не можна. Раз і мы лічым не гасцініцай, а родным домам дарагую нам Беларусь, дык трэба ведаць і яе дзяржаўную мову.

Час, калі можна было рускім жыць і працаваць на Беларусі выключна толькі ў духу сваіх нацыянальных традыцый, беззваротна мінуў. Трэба ўсім, без падзелу людзей паводле нацыянальных прыкмет, ратаваць беларускі народ, якога за шмат гадоў польскія і рускія асімілятары адвучылі ў сябе дома карыстацца роднай мовай.

Не раз думала і цяпер не перастаю здзіўляцца, да якой ступені трэба было дэнацыяналізаваць беларускі народ, каб такое мноства яго не адчувала ўнутранай патрэбы карыстацца матчыным словам?! Вось дзе трагедыя! У свеце мо такой не знойдзеш. Часта стаўлю на месца беларусаў рускі народ, і адразу прыходзіць думка, што, відаць, не перажыла б, бачачы павальную страту сваёй роднай мовы. Малайцы беларусы, што ўсё ж неяк трымаюцца ў такой экстрэмальнай сітуацыі, спадзяюцца на лепшае, хоць яно яшчэ ў густым тумане.

Калі я бываю ў сваіх родных у Башкірыі і даводжу тамашнім рускім пра трагізм беларускага народа, тут жа чую ад іх: "А чаго ж вы, рускія, нічога там не робіце дзеля выратавання беларускага народа? Без яго ж у славянскай супольнасці велізарная дзірка ўтворыцца". А вось дома, на Беларусі, я такое вельмі мала чую ад сваіх суродзічаў. Гэта яшчэ раз пераконвае мяне ў неабходнасці стварэння чагосьці падобнага на Рускі фонд беларускага Адраджэння. Нас жа тут больш за паўтара мільёна! З такой сілішчай можна істотна ўмацаваць нацыянальна духоўны патэнцыял беларускага народа. А вось калі такую сілішчу выкарыстоўваць у процілеглым напрамку, дык, напэўна, працэс поўнага заняпаду беларускай нацыі завершыцца ўжо ў першыя дзесяціголдзі новага тысячагоддзя. Каму прынясе гэта карысць? Адказ адзін: нікому! Ці ж нашкодзіла б еўрапейскай цывілізацыі, каб у яе геаграфічным цэнтры — Беларусі — развівалася на базе нацыянальнай мовы адметная ад усіх суседніх народаў культура? Наадварот, гэта толькі ўзбагаціла б духоўнае жыццё Еўропы. Вось дзеля гэтага і трэба папрацаваць усім, хто жыве на Беларусі.

Задумваючыся над нялёгкім ходам нацыянальнага Адраджэння беларусаў, не магу не выказаць сур'ёзнай трывогі ў сувязі з тым, што ім часта і вельмі ўмела падкідваюць, асабліва рознага роду "спецыялісты" па нацыянальным пытанні, такія ідэйкі, якія льюць ваду на кола чужога млына. Надзвычай уважлівымі трэба быць да сацыялагічных прагнозаў, паслухаўшы якія, могуць апусціць рукі нават самыя заўзятыя змагары за беларускую нацыянальную ідэю. Таксама лічу памылковым, што ў новым пашпарце грамадзяніна Рэспублікі Беларусь адсутнічае графа "нацыянальнасць". Столькі часу беларуская нацыянальная ідэя была пад забаронай, апаганьвалася, а цяпер, калі народ можа дыхаць на поўныя грудзі, у яго не будзе магчымасці засведчыць сваю нацыянальную прыналежнасць у пашпарце?! Пасвойму і я хацела б выкарыстаць такую магчымасць. Пішу "па-свойму" таму, што з-за павагі да той зямлі, мову і культуру якой палюбіла, прыняла як родную, вывучыла і засвоіла, дзе прайшло больш за палову майго жыцця, зямлі, з якой не развітаюся ўжо да самага скону, я хацела б нават запісацца беларускай. Думаю, што такое я заслужыла ў беларускага народа, бо ў яго культурна-моўнай стыхіі адчуваю сябе, як у родным доме. Толькі шкада, што такой стыхіі занадта мала для тых, хто хацеў бы хутчэй і шчыльней інтэгравацца ў беларускую культуру і мову. Усім падобным да мяне небеларусам, якія прынялі да сэрца, жывуць нацыянальнымі традыцыямі сваёй другой радзімы, вельмі ж ужо нестае беларускамоўных кантактаў на працы, у грамадстве і міжасобасных узаемаадносінах. Слаба нам дапамагаюць у гэтым сродкі масавай інфармацыі, кіно, прафесійныя тэатры, дзе гаспадыняй пакуль што не з'яўляюцца беларуская культура і мова.

Дапускаю, што мая спроба схіліць сваіх супляменнікаў да беларускасці можа застацца марным лямантам у пустыні. Тады хацелася б, каб мы хоць не ўмешваліся ў ход развіцця моўнай сітуацыі на беларускай зямлі, бо не нам, рускім, а яе карэннаму насельніцтву вырашаць, якой павінна тут быць дзяржаўная мова. Не сумняваюся, што ніхто з нас не жадаў бы, каб на этнічнай тэрыторыі рускіх вырашэнне гэтага лёсавызначальнага для кожнай нацыі пытання залежала ад волі не іх, а, скажам, татараў, немцаў, яўрэяў, чувашоў, башкіраў і г.д. Гісторыя на шматстайнай планеце Зямля адвяла кожнаму народу сваю дзялянку, якую ён павінен апрацоўваць, узбагачаць паводле сваіх нацыянальных традыцый. Жадаю поўнага іх росквіту на беларускай зямлі.

---

*Нам стало известно*

# Восстановить справедливость!

**С предложением признать ветеранами Великой Отечественной войны бывших политических заключенных национал-социалистического режима (узников гитлеровских концлагерей) обратились к премьер-министру республики Вячеславу Кебичу активисты республиканского фонда "Взаимопонимание и примирение".**

В их обращении говорится, что в документах, принятых Верховным Советом и правительством Беларуси к празднованию 50-летия освобождения республики от немецко-фашистских захватчиков, не учтены интересы активных борцов против национал-социализма. К ним, как известно, относятся политические узники Освенцима, Майданека, Бухенвальда и многих других концентрационных лагерей, в которые попадали особенно опасные для фашистского режима люди — подпольщики, партизаны и их связные, военнопленные...

Однако жертвы нацистских преследований до настоящего времени не признаны участниками Великой Отечественной войны. Это несправедливо, считают в фонде "Взаимопонимание и примирение", и поэтому требуют, чтобы узников концлагерей признали, наконец, ветеранами Великой Отечественной войны с выдачей им соответствующих свидетельств и предоставлением льгот активного борца с фашистским режимом.

**Белинформ.**

*Двумя абзацами*

# Валютные торги: спрос превышает предложение

**Как и предполагалось, курс доллара на белорусском биржевом рынке продолжает расти.**

На последних торгах Межбанковской валютной биржи он поднялся на 645 пунктов и составил 6750 белорусских безналичных рублей за доллар.

Надо отметить, что кривая спроса опять стала медленно, но упрямо подыматься вверх, и несмотря на то, что объем продажи высокий и на этот раз превысил 4 миллиона, аппетиты банков и их клиентов остаются неудовлетворенными. Так, спрос на последних торгах составил 5 миллионов 140 тысяч, а первоначальное предложение — только 2,5 миллиона.

**Екатерина ВЫСОЦКАЯ.**

# Помогут ли нам шведы в борьбе с организованной преступностью?

**В Беларуси с двухдневным визитом были делегации министерства юстиции Швеции во главе с послом по особым поручениям МИД Швеции, по вопросам международного сотрудничества в борьбе с терроризмом, наркобизнесом и другой тяжкой преступностью господином Матсом Марлингом.**

В ходе визита состоялись деловые встречи в Минюсте республики, Министерстве внутренних дел. На них обсуждены вопросы борьбы с организованной преступностью, наркобизнесом, незаконной иммиграцией, которые имеют взаимный интерес. Переговоры завершились подписанием протокола рабочей встречи.

**Белинформ.**

# Леонид Якубович — всегда в цене!

**Во всяком случае, в Гомеле.**

Во время проведения финала открытого областного фестиваля клубов "Что? Где? Когда?" один из зрителей "вырвал" у конкурентов газету "Поле чудес" с автографом ведущего одноименной передачи за 17 тысяч рублей. Другие предлагали только 10—16 тысяч.

**РИД.**

# Мир не без добрых людей

**Удивительное по нынешним временам милосердие проявили жители деревни Павловичи Кировского района Могилевской области по отношению к своему односельчанину Владимиру Щербичу, дом которого сгорел по нелепой случайности.**

Колхоз помог со стройматериалами, и буквально за три выходных дня общими усилиями для Щербича был возведен добротный дом.

**Борис МИХЕЕВ.**

*Не все так плохо*

# Ирис — не "Сникерс", но какой вкусный!

Дорогие "Сникерсы" многим родителям не по карману. А отечественных конфет в магазинах Брестской области почти не бывает.

Вот и выручает цех агрофирмы-колхоза "Рогознянский" Жабинковского района. Здесь выпускают очень вкусный и сравнительно дешевый ирис. Восемь человек, работающие в цехе, за месяц производят около полутора тонн продукции.

Новинка, выпускаемая в цехе, — ирисовая конфета в виде плитки. Делает это лакомство Анна Якимук, которая уже семь лет трудится на этом производстве.

**Фото Эдуарда КОБЯКА, Белинформ.**

*Репортер узнал*

# Торговать ракетами на Комаровке запрещено

**Министерство торговли Беларуси утвердило правила торговли на рынках республики, которые вступают в действие с 1 января 1994 года, — в целях усиления защиты интересов покупателей и улучшения организации работы.**

Данные правила распространяются на все рынки республики, независимо от их профиля. Согласно им, юридическим лицам и предпринимателям, осуществляющим на рынке розничную торговлю или торгово-производственную деятельность, необходимо иметь лицензию. Плата за торговое место вносится единовременно до начала торговли, торговое место может быть закреплено за торгующим на неопределенный срок. С населения, посещающего рынок в качестве покупателей, взимание платы не допускается.

Новые правила запрещают частным лицам торговлю кондитерскими изделиями, солениями и маринованными грибами собственного производства, винно-водочными и табачными изделиями, другими продовольственными товарами. В число запрещенных попадают нефть, газ, уголь, а также товары, реализация которых запрещена или ограничена законодательством. К последним относятся драгоценные металлы и изделия, их содержащие, все виды вооружения и боеприпасы к ним, стратегические материалы, системы связи и управления военного назначения, а также ракетно-космические комплексы.

**Александр МОЛЧАНОВ.**

